# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 15 (1770) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 15 КРАСАВІКА 1990 г. ЦАНА 600 зл.


## ХРЫСТОС ВАСКРОС!

**Хрыстос Васкрос!... Усюды радасць,**
**Усё глядзіць сьмялей, сьвятлей;**
**Вялікі Мучальнік, здаецца,**
**Абняў усіх ласкаю сваей.**

**Хрыстос Васкрос!... Неўгамонна**
**Плыве па нівах, пушчах клік,**
**Плыве адна сьвятая думка**
**З канца ў канец, як сьвет вялік.**

**Хрыстос Васкрос!... Пяе сялянін**
**З сваей убогаю радnёй,**
**Забыўшы песьні аб прадвесьні,**
**Забыўшы ўсё усей душой!**

**Хрыстос Васкрос!... Пяе сіротка,**
**Слуга таптаная людзьмі;**
**Пяе ў чужыне падарожны,**
**Забыты бліжнімі сваймі.**

**Хрыстос Васкрос! — пяюць і тыя,**
**Хрыста згубіўшыя сыны,**
**Што ў ціхамоўку ладзяць сеткі**
**Для нашай беднай староны.**

**Хрыстос Васкрос!... К Табе, о Божа**
**І я ў дзень гэты думку шлю;**
**Хай Беларусь, мая староnка,**
**Уваскрэсьне к лепшаму жыцьцю.**

**Янка Купала**
**1911 г.**



*Кафедральны сабор у Мінску.*
*Фота М. Гайдука.*

## ЗВАРОТ

### ПРЭЗІДЫУМА ГП БГКТ ДА ЧЛЕНАЎ ТАВАРЫСТВА

Прэзідыум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства з задавальненнем вітае пачатую ў беларускіх і змешаных асяроддзях выбарчую кампанію ў самаўрады, якой кіруе Беларускі выбарчы камітэт у Беластоку — усебеларускі аб'яднаны форум у Польшчы. Узнікаюць гмінныя і гарадскія беларускія выбарчыя камітэты. Яны імкнуцца ў сваім дзеянні да стварэння ўмоў нармальнага сужыцця паміж польскай і беларускай грамадскасцю ў атмасферы ўзаемнага даверу, пашанавання нацыянальнай адметнасці і годнасці, абмяркоўваюць праграмы дзеяння, вылучаюць кандыдатаў на радных у будучыя самаўправы.

Наша сіла ў еднасці! Таму звяртаемся да ўсіх членаў і сімпатыкаў БГКТ аказаць мясцовым беларускім выбарчым камітэтам максімальную дапамогу ў падрыхтоўцы выбараў. Сёлетнія выбары, якія праводзяцца ў надзвычай складанай і няяснай палітычнай і эканамічнай сітуацыі, патрабуюць ад нас, як ніколі раней, згуртаванасці і прысутнасці пры выбарчых урнах. Маючы сваіх радных. будзем мець уплыў на забеспячэнне гаспадарчых інтарэсаў жыхароў нашых гмін і гарадоў, а таксама на абарону працаўнічых правоў беларусаў і іх сем'яў.

Прэзідыум ГП БГКТ заклікае членаў і сімпатыкаў да ўдзелу ў выбарчай кампаніі пад лозунгам: „Усе галасы на кандыдатаў беларускіх выбарчых камітэтаў!"

**Прэзідыум ГП БГКТ**

Беласток, 25 сакавіка 1990 г.




## Служыць свайму народу

**(Інтэрв'ю з а. Аляксандрам Надсонам)**

У Варшаве 17 і 18 сакавіка затрымаўся а. Аляксандр Надсон з Лондана — Апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў па-за Беларуссю. У Польшчу а. Аляксандр Надсон заехаў, вяртаючыся з падарожжа па Беларусі. Карыстаючыся нагодай, я папрасіў у а. Аляксандра сказаць некалькі слоў для „Нівы".

— *Якая была мэта Вашага падарожжа ў Беларусь?*

— Галоўнай мэтай было пазнаёміцца на месцы з вынікамі чарнобыльскай аварыі. Таксама хацеў я даведацца, якім чынам мы можам дапамагчы ахвярам Чарнобыля, прынамсі хоць крыху. Зразумела, наша дапамога — гэта кропля ў моры патрэб, але калі мы яе не акажам, лепш нам не называцца беларусамі. Я завёз першую партыю лякарстваў, якія нам удалося сабраць ад беларусаў з Англіі і саміх англічан. У будучыні трэба нам арганізаваць усе сілы, каб вынікі гэтай трагедыі паменшыць, узяць у нейкія рамкі і ліквідаваць. Хоць такога тыпу трагедыі не было ў мінулым, аднак веру, што ёсць спецыялісты, якія ведаюць, як за гэта ўзяцца.

— *Вы перш за ўсё асоба духоўная. Скажыце, як вы ацэньваеце становішча Каталіцкай царквы ў Беларусі?*

— Становішча Каталіцкай царквы цяпер вельмі нецікавае. Большасць святароў лічыць сябе палякамі і прапагуюць, што католікі — гэта таксама палякі. Душпастырскую працу вядуць яны на польскай мове, а калі гэта немагчыма, — на рускай. Не ведаю чаму, але яны вельмі стараюцца пазбягаць беларускай мовы. Як ведаеце, святейшы айцец, папа Ян Павел II назначыў першага каталіцкага біскупа ў Беларусі. З'яўляецца ім а. Тадэуш Кандрусевіч. Я меў нагоду сустракацца з ім два разы: у Рыме — падчас ягонай кансэкрацыі і цяпер — калі быў у Беларусі. Безумоўна, зрабіў ён на мне ўражанне добрага чалавека, пабожнага, дбайлівага пастыра, але сябе лічыць палякам. Заўсёды падкрэслівае, што хоча быць пастырам для ўсіх сваіх вернікаў, і нават час ад часу гаворыць некалькі слоў па-беларуску, але казанне гаворыць на польскай мове. Уражанне даволі дзіўнае, бо беларусы не гэтага чакаюць, але таго, каб іх пастыр, іх айцец духоўны гаварыў да іх на іх роднай мове. Ужо амаль паўгода ён біскупам, а беларусы ўсё чакаюць.

— *Ці Вы бачыце рэальную магчымасць адраджэння Каталіцкай царквы ў беларускай нацыянальнай форме?*

— Як хрысціянін я павінен быць аптымістам, аднак прадбачваю вялікія цяжкасці. Адзіны спосаб — узгадаваць новых беларускіх святароў, але гэта займае даволі многа часу. У час майго знаходжання на Беларусі я бачыў вялікі духоўны голад сярод моладзі. Яна адкінула матэрыялістычную, бязбожніцкую ідэалогію, у якой была выхавана. Але цяпер не мае нічога, што магла б узяць на яе месца. Маладыя людзі шукаюць, просяць дапамогі. Але ніхто ім яе не аказвае. Гэта моладзь адукаваная. Да яе трэба падыходзіць на яе ўзроўні. Шукаюць святароў, а святары-палякі іх проста ігнаруюць. Яны застаюцца самі сабе. Я правёў сустрэчы з сотнямі маладых людзей. Цудоўныя хлопцы і дзяўчаты. Я іх вельмі палюбіў. Многія з іх няхрышчаныя і хочуць ахрысціцца, хочуць пазнаць праўды веры. Чакаюць слова праўды, слова суцяшэння на іх роднай мове. Яны знайшлі свядомасць свайго

**(Працяг на стар. 4)**

## НА МЯЖЫ

— 3 —

# Калектывізацыя і пісьменнікі

Пэўная частка так званых кулакоў, адчуўшы набліжэнне бяды, заўчасу пакінула вёску, падалася ў гарады і неяк там з горам прымасцілася на фабрыках. Магло б здавацца, што гэтыя людзі выратуюцца. Так аднак не сталася. Нехта з акружэння „айца народаў" звярнуў увагу на тое, што сталася страшэнная рэч — ворагі народа праніклі ў склад кіруючага сацыялістычнай краінай рабочага класа. Значыць, яны зноў будуць кіраваць сялянскай беднатой, карыстаючыся мандатам рабочых. Пачаўся працэс вылаўлівання злосных ворагаў, якія пракраліся ў пралетарскія рады. Большасць з іх з часам далучылася да тых сваіх былых землякоў, суседзяў, якія непасрэдна з вёсак павандравалі ў Сібір.

Ачышчаныя з кулацкіх антынародных элементаў калгасныя вёскі рыхтаваліся да шчаслівага жыцця. Зрэшты, пісьменнікі не чакалі. Пачалася неспатыканая ў гісторыі гонка, спаборніцтвы, хто аб калгасным шчаслівым жыцці напіша болей і аптымістычней. Паявіліся вершы, апавяданні або цэлыя зборнікі тыпу зборніка Купалы „Пад сталінскім сонцам". Язэп Вісарыёнавіч стаў Іосіфам і заваладаў не толькі зямлёй, але і сонцам. Абагаўленне забойцы, тырана, тэрарыста сталася фактам. А ён адплачваў. Устанавіў сталінскую літаратурную прэмію, якой шчодра абдзялялі сервілістычных пісьменнікаў. Расказваў мне адзін паважаны беларускі пісьменнік аб тым, што ў часе вялікай урачыстасці ў тэатры сакратар Цэнтральнага камітэта Гусараў у час прамовы ўпаў на вачах вялікага натоўпу на калені і, склаўшы малітвенна рукі, крыкнуў: „Давайце падзякуем вялікаму Сталіну за шчаслівае жыццё". Натоўп моцна збянтэжыўся, бо ў цесных праходах паміж крэсламі ніяк не мог зрабіць таго, што зрабіў Гусараў. Толькі мала каму ўдалося зрабіць тое ж.

Здавалася б, статыстыка спрыяла новай сістэме і яе абяцанкам. Вялікая колькасць кулакоў і іх сем'яў была вывезена ў Сібір. Тым самым паменшылася колькасць людзей, якіх мусіла карміць зямля. Усе маёмасці кулакоў: хаты, будынкі, прылады, жывёла перайшлі ва ўладанне калгасаў, скончылася эксплуатацыя кулакамі сумленных працавітых беднякоў. Дзяржава аказала калгасам вялікую дапамогу. Увайшлі на калгасныя палі і лугі машыны. Калгасная гаспадарка першы раз у гісторыі атрымала падтрымку з боку навукі. І якія былі гэтага вынікі? Думаю, што можна не гаварыць, усе ведаюць. Многія мільёны калгаснікаў у СССР аказаліся на грані галоднай смерці.

Калі ў нашых заходнебеларускіх вёсках паяўляліся весткі аб трагічнай сітуацыі ў калгасах, людзі не верылі. Гаварылі, што гэта антысавецкая прапаганда. Чакалі саветаў. Памятаю, як мой бацька ў верасні 1939 г. чалавеку, які прыйшоў у Бандары і сказаў, што бачыў на гасцінцы чырвонаармейцаў, падзякаваў, выцягнуў недзе моцна схаваную бутэльку і паставіў перад ім. Мабыць, нават і не падумаў тады аб тым, што калі б у чэрвені 1941 года савецкая ўлада пратрымалася яшчэ два тыдні, ён як кулак быў бы вывезены ў Сібір.

Энтузіязм вітання Чырвонай Арміі быў у нас спантанны і шчыры. І трэба сказаць, што прынамсі ў двух галінах жыцця ў параўнанні з польскім перыядам палепшылася: моладзь атрымала магчымасць бясплатнай навукі, а ўсе жыхары атрымалі бясплатнае лячэнне. Гэта людзей радавала. Цешыла таксама родная мова ў школах і свае чыноўнікі ў сельсаветах. Людзі ахвотна слухалі агітатараў, якія наведвалі вёскі. І раптам нечаканае — калгасы! Праўда, прапаганда вялася досыць асцярожна. Хутчэй за ўсё яе мэтай было даведацца аб настроях мясцовых жыхароў. А настроі ў гэтай галіне былі дрэнныя. Людзі не хацелі калгасаў. Толькі людзі, найчасцей з тых, хто нічога не меў, падтрымлівалі ідэю калектывізацыі. На жаль, сярод іх намала было гультаёў, п'яніц, лайдакоў, якія нічога не мелі па прычыне сваёй безадказнасці, абыякавасці, пагарды для працы. Якраз ім і былі дадзены карты ў рукі, яны з апошніх рабіліся першымі. На сходах станавіліся ў першыя рады і спявалі „Інтэрнацыянал". Асабліва моцна любілі фразу: „Кто был ничем, тот станет всем". Гарадскія агітатары, гледзячы на іх, прамянелі. Запамяталася мне фраза двух прапагандыстаў, якія пакідалі школьную залу пасля сходу ў Рыбаках: „Петя, — сказаў адзін другому, — ведь это отличные ребята. С ними создадим прекрасное будущее".

Нармальныя гаспадары спаглядалі коса на новых вясковых важакоў, якіх ведалі дагэтуль з найгоршага боку. Аднак трэба было лічыцца з уладамі, якія ўсебакова падтрымлівалі вясковы бядняцкі элемент. Падтрымка гэта ішла ад афіцыйнай дзяржаўнай філасофіі, паводле якой толькі бедны быў парадачны, а заможны ў сваім характары насіў варожыя сацыялізму гены. Канчатковая мэта заключалася ў тым, каб знішчыць усе праявы вясковага дастатку і заможнасці, каб усе сталіся роўнымі, не маючы нічога.

**Алесь Барскі**

### З'ЕЗД ВЫКУСКНІКОЎ БЕЛЬСКАГА ПЕДАГАГІЧНАГА ЛІЦЭЯ

Нядаўна заснаваўся ў Бельску-Падляшскім арганізацыйны камітэт з'езда настаўнікаў і выхаванкаў Дзяржаўнага педагагічнага ліцэя. Гэтая заслужаная для асветы нашага ваяводства школа існавала ў 1950—1970 гадах і на працягу дваццацігадовай дзейнасці падрыхтавала больш тысячы настаўнікаў, у тым ліку і выкладчыкаў беларускай мовы. Многія з іх і сёння працягваюць навучанне роднай мовы.

Сёлетні з'езд адзначыць саракагоддзе заснавання і дваццацігоддзе спынення працы ліцэя, будзе нагодай прыпомніць яго значэнне ў падрыхтоўцы настаўніцкіх кадраў, сустрэцца настаўнікам і выхаванкам.

**З'езд адбудзецца 23—24 чэрвеня 1990 г. у Бельску-Падляшскім.** Усіх зацікаўленых просім да 20 мая г.г. даслаць заявы аб удзеле і пералічыць 50.000 злотых на рахунак Школьнай бурсы ў Бельску: PBK Warszawa, Oddział Bielsk Podlaski, Nr. 370419-563-139-12 з прыпіскай „Zjazd".

Дакладныя інфармацыі можна атрымаць па тэлефоне (2673 або 2685 у Бельску) або пішучы на адрас: Bursa Szkolna, 17-100 Bielsk Podlaski, ul. Mickiewicza 122.

Нашых чытачоў просім інфармацыю аб з'ездзе распаўсюдзіць як мага найшырэй у настаўніцкім асяроддзі. **(л)**

## ЗАЯВА СЕЙМАВАЙ КАМІСІІ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ І ЭТНІЧНЫХ МЕНШАСЦЯЎ

Асноўная змена механізмаў дзеяння лакальнай улады, выкліканая ўвядзеннем тэрытарыяльнага самаўраду і дэмакратычнымі выбарамі да яе прадстаўнічых органаў, павінна спрыяць паскарэнню працэсу вяртання пражываючым у Рэчыпаспалітай Польскай нацыянальным меншасцям належных ім правоў і належнага ім месца ў грамадскім і палітычным жыцці.

Камісія выказвае надзею, што ў выніку самаўрадавых выбараў прадстаўнікі меншасцяў знойдуцца ў адпаведнай да іх ліку прапорцыі ў гмінных радах, здабываючы гэтым магчымасці вырашання аб усіх істотных лакальных справах.

Камісія звяртаецца да ўсіх палітычных сіл, прымаючых удзел у выбарах, — да партый, лакальных грамадзянскіх камітэтаў, да грамадскіх арганізацый пазбягаць у час выбарчай кампаніі дзеянняў, выклікаючых або падтрымліваючых нацыянальныя канфлікты.

Надыходзячыя выбары павінны спрыяць памяншэнню або памякчэнню гэтых канфліктаў, павінны наблізіць усіх, хто сапраўды зацікаўлены ў тым, каб гміна, суб'ект публічнай улады ў лакальным маштабе, станавілася, незалежна ад нацыянальнага складу жыхароў, месцам згоднага вырашэння і дзеяння ва ўсіх жыццёвых справах самаўрадавай супольнасці.

Самаўрадавая рэформа і першыя пасля вайны дэмакратычныя выбары ў гмінныя рады — гэта шанц вярнуць прынцыпы сапраўднай талерантнасці ў жыцці Рэчыпаспалітай. **(ПАП)**

## Шабаш рэвізіяністаў

Не спыняюцца і надалей зборышчы польскіх рэвізіяністаў, прагных шалёнага разгулу. Яшчэ зусім не так даўно польская сталіца Варшава была (у палове лютага) аблеплена афішамі „45 гадоў Ялты. Даволі!" з накрэсленым абрысам сённяшніх дзяржаўных граніц Польшчы і „адарваных" ад яе ў выніку пагаднення ў 1945 г. паміж трыма вялікімі дзяржавамі ЗША, Вялікабрытаніяй і СССР на канферэнцыі ў Ялце „Усходніх крэсаў" Рэчыпаспалітай (!), гэта значыць, літоўскіх, беларускіх і ўкраінскіх земель Літвы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, а ў гадавіну падпісання дагавора („ганебнага трактата". — як было напісана ў афішы) на Замкавай плошчы пад калонай Зыгмунта III Вазы адбыўся рэвізіяніцкі шабаш правых партый, груповак і арганізацый, які прыняў характар пратэста (паказала яго нават польскае тэлебачанне), як ужо 18 сакавіка г.г. падобны рэвізіяніцкі шабаш прайшоў пасля імшы пад касцёлам святой Брыгіды ў Гданьску.

З публікацыі надрукаванай у органе Сацыял-дэмакратыі Польскай Рэчыпаспалітай „Трыбуна" (№ 31, ад 19 сакавіка г.г.), пад іранічным загалоўкам „А чаму не Кіеў ці Пскоў?" і надзагалоўкам „Працяг гісторыі палітычнай дурноты..." даведваемся, што ў дэманстрацыі наконт далучэння да Польшчы „акупаваных" літоўцамі, беларусамі і ўкраінцамі „Усходніх крэсаў" Рэчыпаспалітай прыняло ўдзел каля 100 чалавек. Як піша „Трыбуна", свае дамаганні ў справе вяртання „захопленых" літоўцамі, беларусамі і ўкраінцамі „польскіх гарадоў": „Вільні, Гродна, Львова, а таксама тэрыторыі Палесся, дэманстранты „артыкулявалі" вядомаму ксяндзу Генрыку Янкоўскаму, які хутка мае наведаць Савецкі Саюз. Акрамя гэтага дэманстранты патрабавалі кампенсацыі 30 мільярдаў рублёў золатам за „захопленую" па дагавору Рыбентроп-Молатаў маёмасць Рэчыпаспалітай Польскай на Ўсходзе. Затым дэманстранты, між іншым, праз мегафоны, правялі маніфестацыю пад будынкам гданьскай Ваяводскай управы ўнутраных спраў.

**Сцяпан Дубіна**




### Зняць кляймо

З цікавасцю прачытаў я фельетоны Алеся Барскага „Зняць кляймо“. Усё напісанае ім — гэта праўда. Мяне таксама спаткаў лёс Аляксандра Надсона. Я сам паходжу з-пад Навагрудка. У 1944 годзе закончыў матуральныя курсы пры Настаўніцкай семінарыі ў Навагрудку. Затым быў забраны ў Краёвую абарону і высланы ў афіцэрскую школу ў Мінск. Адтуль нас вывезлі ў Францыю, дзе я ўцёк да французскіх партызанаў. Калі прыйшлі альянты, я ўступіў у Польскае войска пад англійскім камандаваннем. Мы змагаліся супраць фашыстаў, і шмат нашых людзей ляжыць на ваенных могілках Заходняй Еўропы.

Каб мы вярнуліся пасля вайны на Радзіму, у „сталінскі рай“, то шмат хто з нас апынуўся б у канцлагерах. А мы хацелі і хочам людзьмі звацца.

Я ўжо некалькі разоў пабываў на Бацькаўшчыне, на Наваградчыне. Апошні раз быў улетку мінулага года. З прыемнасцю наведваю вёску, дзе правёў сваё дзяцінства, малюся над магілай сваіх бацькоў, гасцюю ў сваіх сёстраў.

Адно непрыемнае — тое, што на Беларусі трэба шукаць беларусаў. Сваёй роднай мовы амаль не пачуеш. Вось у Навагрудку шэсць сярэдніх школ, але няма сярод іх беларускай школы. Куды ні пойдзеш, усюды пачуеш чужую мову. Пайшлі мы ў касцёл, а там ксёндз багаслужбу адпраўляе па-польску, пайшлі ў царкву — а там далей па-руску. Я да людзей гавару па-беларуску, а яны мне адказваюць па-руску. Слухаў таксама тэлеперадачу з Мінска на беларускай мове. Вялася нейкая дыскусія з удзелам міністраў. У студыі было дзесяць чалавек. Вядучы перадачу звяртаўся да ўдзельнікаў дыскусіі з пытаннямі на беларускай мове, а адказы атрымліваў (за выключэннем двух асоб) на рускай. Пра ненармальнае моўнае становішча на Беларусі прэса павінна пісаць і крытыкаваць.

**С. Б., Англія**

### Лёс эмігранта

Мяне, як і Алеся Барскага, хвалюе пытанне эміграцыі — старой і сённяшняй. Праўда, ён піша, што эміграцыя — гэта вялікае гора для любога народа, для беларускага таксама. Але што зробіш? Часам так складаецца жыццё, што чалавек вымушаны выехаць са сваіх родных мясцін. Гэтыя прычыны добра асветлены ў „Ніве“, а асабліва ў вершах эміграцыйных паэтаў, надрукаваных у „Літаратурным лістку“. У їм адчуваецца боль за Беларусь людзей, якія пражываюць далёка ад роднага кутка.

**(Працяг на стар. 6)**

## Свойскія малюнкі



*Белавежскія дубы.*
*Мал. У. Петрукі*

### ГІСТОРЫЯ КНІЖНАЙ КУЛЬТУРЫ ПАДЛЯШША

Уважлівы чытач „Нівы“ пэўна памятае размову з Юрыем Лабынцавым, супрацоўнікам Інстытута славяназнаўства і балканістыкі АН СССР („У полі зацікаўлення — Беларусь“, „Ніва“, 10 снежня 1989), у якой паведамлялася, што рыхтуецца да друку незвычайнае па свайму характару выданне — „Гісторыя кніжнай культуры Падляшша“. Нядаўна наша рэдакцыя атрымала болей падрабязны канспект гэтага выдавецкага мерапрыемства. З прыемнасцю даем яго да ведама нашых чытачоў.

Выданне „Гісторыя кніжнай культуры Падляшша“ ажыццяўляецца пад эгідай ЮНЭСКА. Выканаўцамі выдання з'яўляюцца: АН СССР — Інстытут славяназнаўства і балканістыкі, Міністэрства культуры БССР — Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна, Польская АН — Беластоцкае навуковае таварыства. Агульнае кіраўніцтва — ІСіБ АН СССР. Прафесіянальнае забеспячэнне: Ю. Лабынцаў — старшы навуковы супрацоўнік ІСіБ АН СССР (кіраўнік тэмы), Т. Рошчына — загадчык аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі БССР, Р. Сасна — член Беластоцкага навуковага таварыства (настаяцель прыхода св. св. Кузьмы і Дзяміяна ў Рыбалах). Паліграфічнае забеспячэнне: выдавецкая база Дзяржаўнай бібліятэкі БССР.

Выданне, якое будзе складацца з сямі выпускаў, уключыць поўную інфармацыю пра ўсе бакі культурнага працэсу на Падляшшы, звязанага з рукапіснай і друкаванай кніжнасцю на царкоўна-славянскай, старарускай, старабеларускай, беларускай, стараўкраінскай, украінскай, польскай, лацінскай і літоўскай мовах.

Тэматыка выпускаў наступная:

1. Літаратура па гісторыі і культуры Падляшша.
2. Кірылічныя выданні ў друкарнях Падляшша.
3. Лацінічныя выданні ў друкарнях Падляшша.
4. Рукапісная кніжнасць Падляшша.
5. Гістарычныя кніжныя цэнтры і зборы на Падляшшы.
6. Дакументальныя і актавыя крыніцы па гісторыі і культуры Падляшша.
7. Паказальнікі да 6-ці папярэдніх выпускаў.

Гэтая выдавецкая праграма будзе разгледжана на чарговай Генеральнай асамблеі ЮНЭСКА ў 1991 годзе, а першыя вынікі яе рэалізацыі будуць абмеркаваны на міжнародным з'ездзе славістаў у 1993 годзе ў Братыславе.

**(ям)**

### НЕСПАДЗЯВАНЫ ВІЗІТ

28 лютага г.г. у Орлю трапілі неспадзяваныя госці. Былі гэта паслы — члены сеймавай камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцяў. Пасольскую дэлегацыю ўзначальваў старшыня гэтай камісіі Ежы Вутке. Прадстаўнікі арлянскай грамадскасці сардэчна прывіталі гасцей. Я таксама меў гонар нейкі час спадарожнічаць пасольскай дэлегацыі. Госці паглядзелі новую школу, якая яшчэ будуецца, і рамантаваную сінагогу — самы каштоўны помнік мінуўшчыны ў Орлі. Потым была сустрэча з вучнямі з Орлі і Пашкоўшчыны. Старшыня камісіі Е. Вутке сардэчна дзякаваў членам дзіцячага вакальна-інструментальнага калектыву з Пашкоўшчыны і падарыў ім кветкі. Паслы гутарылі з настаўнікамі арлянскай школы, з інспектарам асветы і выхавання Анатолем Мартыновічам і начальнікам гміны Мікалаем Зіневічам.

Жыхары Орлі маюць надзею, што візіт паслоў паспрыяе вырашэнню інвестыцыйных праблемаў гміны. Усе мяркуюць, што будзе працягвацца пабудова школы і асяродка здароўя.

**М. Ляшчынскі**

## Служыць свайму народу

**(Працяг са стар. 1)**

беларускага паходжання і нават пачынаюць тым ганарыцца, значыць, знайшлі свядомасць годнасці быць беларусам. Не паддаліся русіфікацыі савецкай школы і не пойдуць да польскіх ксяндзоў. Ім трэба родных святароў, але калі такіх атрымаюць, — я не ведаю. Праўда, ёсць ужо некалькі кандыдатаў, але каб яны сталі святарамі, трэба 5—6 гадоў. Калі будуць беларускія святары, можна будзе арганізаваць беларускія прыходы і ў Мінску, і ў Гародні, і ў іншых гарадах Беларусі.

— *Якая ёсць магчымасць стварыць каталіцкую семінарыю ў Беларусі?*

— Пакуль што яшчэ такой няма, але калі будзе, я баюся, што яна не будзе служыць патрэбам беларускага народа. Будзе яна мець польскі характар.

Кандыдаты ў святары цяпер вучацца ў Рызе. Там семінарыя латышская, а латышы настолькі талерантныя, добрыя, што прымаюць усіх. Як ведаеце, навучанне там вядзецца на рускай мове. Я думаю, што добры кампраміс у такой школе, дзе ёсць студэнты розных нацыянальнасцей: латышы, палякі, беларусы, немцы, украінцы. Там прынамсі няма небяспекі паланізацыі.

Найлепшае было б даць магчымасць кандыдатам у святарства выехаць за граніцу, скажам, у Італію, у Рым, каб там яны атрымалі адукацыю, а пасля вярнуліся на бацькаўшчыну. Цяпер, калі становішча ў Савецкім Саюзе крыху мяняецца, мо гэта стане магчымым. Збіраюся ехаць у Рым і буду гаварыць у гэтай справе. У нас ужо ёсць некалькі такіх кандыдатаў. У Італіі яны не апалячацца, калі, скажам, пашлем іх у Грэцкую калегію, ці Грэгарыянскі універсітэт. Гэта адзіны выхад, бо на Беларусі не бачу магчымасці, каб была беларуская семінарыя, а пасылаць у Польшчу — яшчэ горш.

— *Якія бачыце шанцы палітычнага адраджэння на Беларусі?*

— Цяжкое пытанне. Яны там маюць велізарныя клопаты. На-

# Ах, Кіеў, Кіеў...

Размножылася ў нас нацыянальнасцяў на Беласточчыне апошнім часам. Чалавек ужо пачынае губляцца ў гэтай новай нацыянальнай сітуацыі. Амаль штотыдзень чалавек бярэ ў рукі „Газету Вспулчэсную" або Кур'ер" (адзін ці другі) і з жахам папаўняе свае геаграфічныя веды. Ну бо хто ж мог ведаць месяцы два таму назад, што на Беласточчыне пражываюць такія этнасы, як „рускія" і „руськія", „падляшукі" і „паляшукі", „русіны" і „рускія-украінцы"? Да таго яшчэ „украінцы" і украінцы. Што ні сказаць, сёння наш рэгіён можна ўпісаць у кнігу рэкордаў Гінеса ў спаборніцтве народаствараня. Пакуль што яшчэ не вядома, каму персанальна прызнаць першы прыз у гэтым спаборніцтве. Можна спрабаваць разабрацца, што ўяўляе сабою паасобны этнас, але не ва ўсіх выпадках належыць спадзявацца поспеху, паколькі некаторыя этнасы налічваюць усяго па некалькі прадстаўнікоў, што ўскладняе вызначэнне іх этнічных асаблівасцяў. Крыху святла на этнічнае аблічча Беласточчыны пралівае інтэрв'ю з Сяргеем Брэнько, старшынёю Украінскага грамадска-культурнага таварыства ў Гайнаўцы (былога, бо Таварыства ў лютым самаліквідавалася), змешчанае ў „Gazecie Hajnowskiej" (Pismo Komitetu Obywatelskiego) за 2 сакавіка 1990. Гутарка ідзе пра „украінцаў у Гайнаўцы", інакш кажучы, пра субэтнас тэрытарыяльна лакалізаваны (у разуменні прафесара Гумілёва). Прывядзем дзве трэція са сказанага С. Брэнько.

Пытанне: Jak liczne są pańskim zdaniem poszczególne narodowości na terenie Hajnówki?

Адказ: Z historycznego punktu widzenia, według kryterium językowego i wyznaniowego moim zdaniem w Hajnówce jest ok. 70% Polaków, ok. 1000 Białorusinów, zaś reszta to wywodzący się z Ukraińców Polaszucy. Świadczy o tym chociażby ukraiński akcent, który najczęściej słychać w okolicznych wsiach. Ponieważ nie ma Kościoła Grekokatolickiego, wszyscy skupiają się w Cerkwi Prawosławnej.

Ну, хай ужо тут гісторыкі, лінгвісты і Бог разбіраюцца, дзе знаходзіцца пункт гледжання С. Брэнько і якія крытэрыі ён бярэ пад увагу. Мяне асабіста надта расчульвае клопат С. Брэнько пра гайнаўскіх Polaszuków, якія не маюць свайго грэка-каталіцкага касцёла і ходзяць у праваслаўную царкву. Добра, што хоць Бог той самы ў адной і другой святыні.

Пытанне: Czy istnieje potrzeba tworzenia stowarzyszeń, partii narodowościowych?

Адказ: Stowarzyszenia nie są potrzebne. Stalinizm zniszczył przedwojenny, wielonarodowościowy, harmonijny układ społeczny i tego już się nie da odbudować.

А што вы думалі? Ёсць яшчэ людзі, якім хацелася б мець даваенную гарманічную грамадскую структуру (шматнацыянальную!). Яе, аказваецца, немагчыма адбудаваць. У гэтым вінаваты Сталін. Спрачацца не буду, але заўважу, што Лукішкі і Картуз-Бяроза існавалі яшчэ да Сталіна, і гэта зусім не энкавэдзісты дастройвалі ў тых месцах крыху менш гарманічных да агульнай гармоніі Другой Рэчыпаспалітай. А калі згуртаванні і партыі непатрэбныя, дык навошта УГКТ у Гайнаўцы? Чытаем далей: Nasz 150-osobowy oddział w Hajnówce powstał w celach doraźnych. Władze w Warszawie stwierdziły, że tylko wtedy będziemy mogli odwiedzić nasze święte miejsca koło Kijowa, jeśli przystąpimy do Towarzystwa, ale i tak nic z wyjazdu nie wyszło.

І так бывае. Здзіўляе мяне толькі адно: з часу, як саветы адкрылі мяжу, экскурсія ў Кіеў (або пад Кіеў) не з'яўляецца праблемай. Якім жа ўладам у Варшаве ўдалося абдурыць 150 (?!) чалавек у Гайнаўцы? Уладам УГКТ ці можа ўладам Польскай Рэчыпаспалітай? Калі гэта былі ўлады УГКТ, то „гайнаўскія ўкраінцы" зрабілі тактычную памылку. Трэба было дамагацца выезду ў Канаду, тады, можа, Кіеў быў бы дасягальны. А так... О, Кіевэ мій...

Гэтая справа выклікала ў „гайнаўскіх украінцаў" усведамленне ўласных магчымасцяў і адначасова духоўную фрустрацыю. С. Брэнько падводзіць вынікі: Można liczyć tylko na siebie. Myślę, że najlepiej będzie jeśli nastąpi asymilacja w duchu chrześcijańskim. Так, так... Да Кіева, як кажуць, язык давядзе, а да асіміляцыі...

**Ян Максімюк**




*Малюнак, змешчаны ў „Gazecie Hajnowskiej" (2.03.90). Гайнаўскі Грамадзянскі камітэт „Салідарнасці", як відаць, кідаецца ў крайнасці. Спачатку ставіўся да „Мікалая Гайнаўскага" як да чорта рагатага, цяпер жа залічвае яго да святых. Вось што значыць магутнасць друкаванага ў „Ніве" і „Нашых навінах" слова.*

# ПАСТАРАЛІСЯ

8 сакавіка г.г. у нашай любімай школе — Гайнаўскім беларускім ліцэі адбылася вельмі прыемная ўрачыстасць. Ужо ад самай раніцы адчувалася нейкая таямнічасць. Хлопцы былі надзвычай ветлівымі, вялі сябе культурна, загадкава ўсміхаліся. Потым усіх вучаніц і настаўніц запрасілі на калідор і перад намі паявіўся першы афіцыйны мужчына. Але які мужчына! Рост двухметровы, шырокія плечы, моцныя рукі, сардэчная ўсмешка. Такія мужчыны падабаюцца ўсім дзяўчатам. А калі персанальна, дык быў гэта Раман Варшыцкі. Прывітаў ён жанчын, а хлопцы з усіх класаў выступілі з мастацкай праграмай. Трэба аб'ектыўна сказаць, што хлопцы стараліся, як маглі, а выступленні атрымаліся някепскія, асабліва добра паказалі сябе хлопцы з I б класа. Усім мужчынам за дараваны нам канцэрт выказваем нашу жаночую падзяку.

Шкада толькі, што нашы мужчыны бываюць такімі толькі раз у год — у сакавіку.

**Матурыстка**

## ВІДНЕЙ НА ВУЛІЦЫ

Пра асвятленне вуліцы з Бельска ў Відава пісаў я ў „Ніву" неаднойчы, апошні раз — у ліпені мінулага года. А цяпер хачу паінфармаваць, што справа набліжаецца да шчаслівага заканчэння. Бельскае энергетычнае прадпрыемства канчае ўстанаўліваць на адлегласці 1 кіламетра (ад вул. Хмельнай да мяшальні кармоў) энергетычныя слупы, на якіх (што другі слуп) будуць гарэць лямпачкі. Жыхарам Відава будзе бяспечней і прыемней вяртацца вечарам з горада. **Андрэй Гаўрылюк**

## А НА ВЁСЦЫ НЕСПАКОЙ

Што рабіць нам, сялянам, у складанай эканамічнай сітуацыі? З такім пытаннем звярталіся хлебаробы з гміны Бельск-Падляшскі да пасла Уладзіміра Цімашэвіча ў час сустрэчы, якая адбылася 14 сакавіка г.г.

Сяляне балюча адчуваюць недахоп фінансавых сродкаў, а раздабыць іх цяжка. Збожжавае прадпрыемства (ПЗЗ) устрымала скупку зерня. Тое ж самае можа зрабіць малочны завод, які не мае грошай плаціць сялянам за малако. Не скупляюць жывёлу. Як у такой сітуацыі заплаціць падатак, страхоўку, складчыну на пенсіённы фонд? За што купіць мінеральныя ўгнаенні, заплаціць за электраэнергію?

Начальнік Бельскай гміны таксама мае фінансавыя клопаты. Замала грошай на школьніцтва, вулічнае асвятленне і на многае іншае.

Сяляне перасталі верыць у абяцанні і патрабуюць канкрэтных вырашэнняў у галіне сельскагаспадарчай палітыкі. Настроі так пагоршыліся, што мужыкі ўсур'ёз сталі разважаць пра забастоўку.

На беларускай ніве павеяла аптымізмам. Сеймавая камісія наведала Беласточчыну, а нашыя праблемы будуць разглядацца ўрадам. Аб выніках даведаемся пазней, але практыка падказвае, што можа быць па-рознаму.

**В. Семянюк**

цыянальная свядомасць расце не толькі сярод моладзі, але і ў сярэдняга пакалення. І расце аўтарытэт Беларускага народнага фронту, Экалагічнага таварыства і іншых нефармальных арганізацый. Але з часам, я думаю, іх аўтарытэт яшчэ пабольшыцца, асабліва, калі пакажуць сябе не толькі на словах, але і на справе. Адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет БССР — парламент Беларусі. Ужо выбраны прадстаўнікі ад БНФ. Калі яны створаць сваю групу са сваёй палітычнай праграмай, нават, калі яны будуць у меншасці, але заўсёды будуць узнімаць свае праграмныя пытанні, — на кожнай сесіі, такім чынам будуць перад вачыма народа. На больш, пакуль што, у бліжэйшы час нельга спадзявацца. Але бачыце, такая група націску не дала б забыцца аб справе аўтаноміі, культуры, роднай мовы, аб справе большай незалежнасці ад Масквы.

Праўда, ёсць нямала людзей, якія ўжо хочуць незалежнасці, але ёсць і іншыя, якія моцна звязаны з Масквою, з савецкай сістэмай. На гэтых апошніх падзеі ў Літве, краінах усходняй Еўропы, не маюць ніякага ўплыву, але ёсць яшчэ сярэдзіна, якая хістаецца, і на яе трэба звярнуць увагу.

На наш народ вялікі ўплыў мела чарнобыльская трагедыя. Сумна, што якраз гэты фактар уплывае на грамадства яднаюча. Трагедыя дапамагла беларусам зразумець, што яны адзіны народ, што маюць адну мэту і бараніцца павінны самі, бо ніхто іншы ім не паможа. І сапраўды, нашыя старэйшыя браты, так званыя апекуны, цяпер адракаюцца, кажуць, што мы павінны самі вырашаць гэтую праблему. Гэты факт уплывае вельмі моцна на ўзрост свядомасці беларусаў. Агульнае няшчасце іх збліжае. Я б хацеў, каб такое збліжэнне адбывалася без такога няшчасця.

*— Што Вы хацелі б пажадаць нашым чытачам?*

— Я хацеў бы, каб беларусы Беласточчыны захавалі свядомасць прыналежнасці да беларускага народа, і каб беларуская культура і мова дасягнулі свайго росквіту.

*— Дзякую Вам за размову.*

**Гутарку вёў Юрка Ляшчынскі**

МНОГАЕ, БРАТОК, ГУБЛЯЕШ, КАЛІ „НІВУ" НЕ ЧЫТАЕШ!




(Працяг са стар. 4)

Я іх разумею таму, што я са сваёй сям'ёй жыву таксама, як на эміграцыі, але ў Саюзе, а дакладней у Казахстане. На казахскі народ не крыўдую. Карэнныя жыхары адносяцца да нас, людзей іншых нацыянальнасцей, дружалюбна. Па-праўдзе сказаць, на жыццё грэх крыўдаваць. У мяне цудоўная сям'я, добрая кватэра, любімая праца, але нават не ўяўляеце, як мяне цягне ў родныя мясціны. Кожная камандзіроўка ў гэты бок — мая. Я еду, каб хоць хвілінку пабыць на Бацькаўшчыне, наведаць блізкіх. Нягледзячы на тое, што мае бацькі ўжо паўміралі, я пры любой нагодзе наведваю Беларусь, не гаворачы аб водпусках. Пачынаючы з 1958 г., я толькі два разы не быў у водпуску на Беларусі.

Дух займае, калі ідзеш па знаёмай дарозе, калі ўсё ўспамінаецца. Многія, у тым ліку і я, забылі беларускую мову. Што зробіш, так нас вучылі і так вучыла жыццё. Праўда, я свабодна чытаю па-беларуску і калі прыязджаю ў родную вёску, я хутка пераходжу на мясцовую гаворку, але на ёй размаўляе ўжо толькі сярэдняе пакаленне.

Чаго ж можна патрабаваць ад моладзі, якая нарадзілася ў эміграцыі, — унутранай і знешняй. Я вельмі рады, што мая дачка і мой сын пры атрыманні пашпартоў запісаліся беларусамі. Многія ў такіх умовах пішуцца рускімі, бо скрозь і ўсюды мяшаныя шлюбы. Мы з жонкай не патрабавалі ад дзяцей прымаць тую ці іншую нацыянальнасць, але пакінулі гэтае пытанне вырашаць ім самім.

Цяжэй даводзіцца беларусам, якіх лёс кінуў за акіян. Матэрыяльна яны жывуць намнога лепш, але што з багацтва, калі чалавеку давялося дажываць свой век пад чужым небам і няма магчымасці пабываць на Бацькаўшчыне. Іх дзеці, як і ў нас, ужо ў большасці выпадкаў гавораць на мове той краіны, у якой пражываюць. Няўжо не так? Так!

Хацелася б, каб і беларусы, якія жывуць за акіянам, больш пісалі і расказвалі пра сваё жыццё. „Ніва“ магла друкуе лістаў з-за акіяна і другіх краін свету, дзе жывуць беларусы. Я раіў бы ім наведаць сваю Бацькаўшчыну, краіну сваіх продкаў, пагладзець, якая сённяшняя Беларусь. Часы мяняюцца, і прыехаць да нас ужо не так цяжка.

**Іван Самарай,**
**Акцюбінск (Казахская ССР)**

P.S. Віншую ўсіх беларусаў у Польшчы ў сувязі з узнікненнем БЛА. Плённай Вам працы!




# ЗАПУСТЫ Ў СЕМЯНОЎЦЫ

Хаця ўжо Вялікдзень, але ў Семяноўцы сёння ўспамінаюць незвычайны канцэрт беларускай песні, які адбыўся ў клубе „Рух“ 17 лютага г.г., на запусты. На гэты вечар мясцовы гурток Саюза вясковай моладзі, якім кіруе Славамір Аніськевіч, запрасіў жаночы калектыў з Курашава. Разам з імі выступіў таксама госць з Беларусі, мінчанін Юрка Балоцька. Гэты сямнаццацігадовы юнак, вучань тэхнікума, запалоніў гледачоў прыгожым спевам і ігрой на гітары і баяне. Калі канцэрт закончыўся і канферанс'е Янка Шыманюк пачаў дзякаваць артыстам і развітвацца з публікай, гледачы бурнымі воплескамі прымусілі выканаўцаў прадоўжыць двухгадзінны канцэрт яшчэ на паўгадзіны. А потым пачалася супольная танцавальная вечарына.

Семяноўскае мерапрыемства можа быць узорам для іншых клубаў і святліц і з'яўляецца доказам, што, нягледзячы на эканамічны крызіс і неспрыяльныя ўмовы, можна арганізаваць культурнае жыццё на вёсцы. За прыкладам Семяноўкі хоча пайсці Курашава. Там жанчыны з беларускага вакальнага калектыву, якім кіруе Ніна Грыгарук, плануюць арганізаваць 28 красавіка вечарыну з беларускай песняй і запрашаюць на яе Юрку Балоцьку з Мінска.

**Я. Ш.**



*„Прывітальнай песняй“ пачалі канцэрт жанчыны з Курашава.*
*Фота Я. Целушэцкага.*



*Юрка Балоцька спявае песню „Цыганачка“.*

# УЗНОЎЛЕНА ЛОСКАЕ ВЫДАННЕ СЫМОНА БУДНАГА

Народжаны ў вёсцы Буды ў Мазовіі Сымон Будны (1530?—1593) мае выключныя заслугі перад беларускай культурай. Гуманіст і асветнік, тэолаг і рэлігійны рэфарматар, філосаф, гісторык, філолаг і паэт Вялікага княства Літоўскага быў другой пасля Францыска Скарыны асобай, якая ў рэлігійнай пісьменнасці карысталася беларускай мовай. Сымон Будны не толькі сам пісаў на беларускай мове, але быў яе гарачым заступнікам і прапагандыстам. Пасля заканчэння Ягайлаўскага універсітэта ў Кракаве, вучобы ў Італіі і Швейцарыі, у 1558 г. пераязджае ў Вільню, у якой на беларускай мове выкладае катэхізіс у пратэстанцкай школе. Як вядома, у гэты час, у 1553 г. віленскі ваявода і канцлер Вялікага княства Літоўскага Мікалай Радзівіл заснаваў першую абшчыну кальвіністаў у Вільні.

У 1560 г. Радзівіл назначае Сымона Буднага кальвініцкім прапаведнікам у саборнай царкве ў Клецку, дзе ён і захапіўся адукацыяй „простых людзей“. У заснаванай ім, а таксама Лаўрэнціем Крышкоўскім і Мацеем Кавячынскім у 1561—62 г.г. Нясвіжскай друкарні, у 1562 г. Будны выдае па-беларуску „Катэхізіс“ — першую на тэрыторыі Беларусі кнігу на беларускай мове, а праз чатыры месяцы (11 кастрычніка 1562 г.) таксама па-беларуску — „Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам“.

Друкаванне рэлігійных кніг на роднай мове было ў тадышняй Еўропе магутным стымулам уздыму і развіцця нацыянальнай культуры, лічылася адным з найважнейшых дасягненняў рэфармацыйнага руху ў заходнееўрапейскіх краінах. Чаму С. Будны не застаўся верны гэтай еўрапейскай традыцыі, пакінуў свайго мецэната і пачаў працягваць культурна-асветную працу на польскай і лацінскай мовах, мы не ведаем. Аднак, нават і тады Будны стойка падкрэсліваў роўнасць усіх моў усіх народаў Рэчыпаспалітай. Выступаў супраць асімілятарскай палітыкі яе ўладаў, клерыкалізму і распальванню рэлігійнага фанатызму езуітаў. Займаючы антытрынітарскія пазіцыі, у 1567 г. канчаткова парваў з кальвіністамі і пасяліўся ў роднай сястры Радзівіла Анны Кішкі. Жыў у маёнтках Кішкаў у Хоўхлі, Заслаўі, Лоску. У Лоску і выйшла ў 1576 г. на польскай мове праца Сымона Буднага „Аб галоўных палажэннях хрысціянскай веры“*), якую перавыдаў Інстытут філасофіі і сацыялогіі Польскай Акадэміі навук у Варшаве.

Як лічаць аўтары выдання, праца гэтая была „ў нейкім сэнсе кульмінацыйным момантам у ягонай багатай і шматбаковай пісьменніцкай творчасці“. Якраз тады ў сямідзесятыя гады XVI ст. з'явіліся такія творы Буднага, як пераклад „Бібліі“ (Нясвіж, 1572), „Новага запавету“ (Лоск, 1574), з прадмовай, каментарыямі і заўвагамі аўтара, з французскай мовы на польскую — твора Э. В. Фрыза „Аб фурыях, ці Французскіх вар'яцтвах“ (1576). Выдатны рэфарматар быў таксама аўтарам прадмовы да трактата Анджэя Фрыча Маджэўскага „Аб удасканаленні Рэчыпаспалітай“ (Лоск, 1577). У выдадзеным на польскай мове творы „Пра свецкую ўладу“ (Лоск, 1583) Будны апісаў гісторыю барацьбы паміж ім і яго прыхільнікамі і „левымі“ (Пятром з Гонязі, Якубам з Калінаўкі, Марцінам Чаховіцам).

Праца выдатнага філосафа і тэолага „Аб галоўных палажэннях хрысціянскай веры“ з'яўляецца ў асноўнай сваёй частцы палемікай з поглядамі Пятра з Гонязі (Ганёндза) і Станіслава Фарноўскага. Будны палемізуе ў ёй з трактатам Пятра — гуманіста, ідэолага левай плебейска-сялянскай плыні радыкальна-рэфармацыйнага руху на Беларусі і Літве, прафесара Падуанскага універсітэта — „Пра сына божага, чалавека Хрыста“ (Кракаў, каля 1556 г.). Распраўляецца таксама з прыхільнікамі трынітарнай артадоксіі, як каталіцкай, так і пратэстанцкай.

Аўтары выдання звяртаюць увагу на велізарную эрудыцыю Буднага, асабліва ў галіне патрыстыкі, сярэдневяковай і рэфармацыйнай эгзегезы, тэалагічнага рэфармацыйнага пісь-

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.

### 7. Прыметнік — працяг.

Прыметнікі могуць паказваць на высокую меру якасці ці непаўнату яе без параўнання: *маленькі, велізарны, задоўгі, зеленаваты.* Каб аддаць гэтыя значэнні, выкарыстоўваюцца розныя суфіксы і прэфіксы: *навюсенькі, здаравенны, завялікі.* З увагі на тое, што прыметнікі з такімі суфіксамі і прэфіксамі апрача асноўнага значэння меры якасці выражаюць і дадатковае значэнне — адносіны суб'екта да дэсігната — называюць іх *формамі ацэнкі і меры якасці.*

З прыставак найчасцей выкарыстоўваецца *за-: завялікі, замалы, зашырокі, зацесны,* якая надае прыметнікам значэнне 'такі, які перавышае меру якасці: у значнай ступені, або ў невялікай ступені'. Калі з гэтымі прыметнікамі выкарыстоўваюцца прыслоўі меры і ступені *крыху, трохі: крыху завялікі, трохі зацесны,* то паказваюць на нязначную ступень перавышэння меры якасці.

У пісьмова-кніжнай мове выкарыстоўваецца прыстаўка *звыш-*, якая таксама валодае значэннем перавышэння меры якасці (*звышмагутны рухавік, звышметкі стралок, звышдалёкая стральба*) і запазычаныя прыстаўкі *архі-, ультра-* (*архіасцярожны, архінебяспечны, ультракароткі, ультралевы*), якія надаюць прыметнікам значэнне гранічнай меры якасці.

Суфіксы, якія выкарыстоўваюцца ў формах прыметнікаў са значэннем ацэнкі і меры якасці, падзяляюцца на тры групы:

— з павелічальна-ўзмацняльным значэннем: *-енн-* (*здаравенны*), *-ізн-* (*вялізны*), *-эзн-* (*высачэзны*), *-ізарн-* (*велізарны*), *-эразн-* (*высачэразны*);

— з памяншальна-ласкальным значэннем: *-еньк-* (*здаровенькі, добранькі*); *-ютк-* (*навюткі, слабюткі*), *-енечк-* (*маленечкі, слабенечкі*), *-юсеньк-* (*бялюсенькі, паўнюсенькі*), *-юсенечк-* (*малюсенечкі, жаўцюсенечкі*);

— са значэннем непаўнаты якасці: *-ават-* (*белаваты, зеленаваты*). „У спалучэнні з асновамі прыметнікаў, якія абазначаюць прасторавыя прыметы, гэты суфікс перадае значэнне больш высокай меры якасці і адценне непахвальнасці; такія ўтварэнні выступаюць як паралельныя да прыметнікаў з прыстаўкаю *за-: даўгаватая (дошка) — задоўгая (дошка), велікаваты (падмурак) — завялікі (падмурак)*".[1])

Значэнне недастатковай якасці выражаюць таксама прыметнікі з суфіксам *-яв(-ав): бялявы, русавы.*

Прыметнікі маюць дзве формы: поўную і кароткую, якім у назоўным склоне характэрныя наступныя канчаткі:

— поўныя прыметнікі: муж. роду *-і (-ы): доўгі, здаровы;* жаночага роду *-ая (-яя): белая, здаровая, сіняя;* ніякага роду *-ое, -ае, (-яе): лясное, здаровае, сіняе;* у множным ліку *-ія (-ыя): доўгія, здаровыя;*

— кароткія прыметнікі: муж. роду *-Ø (нулявы): здароў, рад, чуцён;* жаночага роду *-а: здарова, рада, чутна;* ніякага роду *-о, -а: чутно, здарова, рада;* у множным ліку *-і (-ы): дарагі, чутны, здаровы.*

Беларускай мове больш уласцівыя поўныя формы прыметнікаў, якія выступаюць і ў сінтаксічнай функцыі азначэння: *Сінюткімі вачанятамі пазіралі з прыпаранай зямлі пралескі* (К-с), і ў функцыі выказніка: *Жнівеньскія раніцы былі росныя і свежыя.* (Стр.). Поўныя формы якасных прыметнікаў у ролі выказніка ў наш час — агульная норма для ўсіх стыляў літаратурнай мовы".[2])

Кароткія формы прыметнікаў выступаюць вельмі рэдка і толькі ў функцыі выказніка: *І песню маю спадабаў, пахваліў... О, як жа тады быў я рад і шчаслів.* (Куп.) У кароткай форме звычайна выступаюць прыметнікі са значэннем стану: *багат, відзён, здароў, рад, чуцён...*

Кароткая форма з'яўляецца нормай толькі для прыналежных прыметнікаў у назоўным і вінавальным склонах: *Аленчына хустка. Аленчыну хустку, Колева шапка. Колеву шапку...* Прыналежныя прыметнікі ў кароткай форме могуць выступаць — у функцыі азначэння: *На стале ляжыць бацькава кніжка* і ў функцыі выказніка: *Гэта кніжка бацькава.*

Часам у мове паэзіі ў функцыі азначэння выступаюць усечаныя формы прыметнікаў, якія ўзніклі ў выніку адсячэння апошняга склада двухскладовага канчатка поўных прыметнікаў, што найчасцей абумоўлена рыфмай і рытмам:[3]) *Уцякала Бандароўна ў поле з цёплай хаты, абымала яе ночка, а вецер крылаты расплятаў ёй косы буйны, песціў белы грудзі.* (Куп.).

[1] П. У. Сцяцко, Прыметнік, Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. Ф. М. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 97.

[2] Там жа, с. 89.

[3] Там жа, с. 89—90.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Ну, і насмяшыў ты мяне, Мікалай з папярэдняга нумара „Нівы". Такі ты, відаць, чалавек: фанабэрысты, занадта добра пра сябе думаеш. Ужо так цябе ўсе дзяўчаты кахаюць, ужо роўнага табе няма! Такі ты прыгажун ды здольны! А я табе скажу адно: каб у пасцелі быў такі добры, дык і негрыцянку быў бы ў стане задаволіць. Што добрае, тое добрае. І ні ад каго гэтага не схаваеш. Не хачу хваліцца, але і я таксама, як той Мікалай, быў у Амерыцы і, калі хто хоча, дык магу расказаць, як і што там было.

А трэба вам ведаць, што ў Амерыку не паехаў я на заробкі. У Амерыцы жыве мой бацька, які развёўся з маці некалькі гадоў таму назад. Калісь ён плаваў на караблі, а цяпер працуе звычайным інжынерам. Матэрыяльна яны з новай жонкай жывуць вельмі добра. Яна — радавітая амерыканка і таксама працуе. Пабудавалі дом каля Нью-Йорка над прыгожым возерам і штодзень даязджаюць да працы ў Нью-Йорк. Першы месяц прасядзеў я там, нават нудзячыся крыху. Бацька ўсюды мяне павазіў, паказаў, што было найцікавейшага. Мне было непрыемна, што я, стары конь, сяджу на бацькавым утрыманні, і я вырашыў папрасіць усё ж такі, каб бацька знайшоў мне нейкую працу. Бацька аднекваўся спачатку, сказаў, што гэта не гонар, каб яго сын, будучы яго госцем, мусіў зарабляць сабе грошы. Пасля, аднак, згадзіўся са мною. Мне ўдалося пераканаць яго, што сярод людзей мне будзе намнога весялей і не буду сумаваць па айчыне. Бацька знайшоў мне працу ў бальніцы, дзе патрэбныя былі санітары.

Навокал было мнагавата дзяўчат, але неяк я да іх падыйсці не адважваўся. Так прайшло паўгода. І ўрэшце калісьці паклікаў мяне бацька „на мужчынскую размову" ды кажа: „Табе патрэбная дзяўчына!" Я пачырванеў, хаця быў ужо дваццацігодкам. Бацька супакоіў мяне і кажа: „Ты цяпер не пераймайся, рэшта — мая справа!" І ўяві сабе, праз два дні прыходзіць да нас з прыгажуняй-негрыцянкай, якая вельмі міла прывіталася са мною. Бацька арганізаваў нейкі пачастунак, мы выпілі па чарцы віна, а тады бацька незаўважальна ўсунуў у маю кішэнь сто долараў і таксама незаўважальна выйшаў. Мы засталіся ўдваіх. Мая негрыцянка з чароўнай усмешкай падыйшла і пацалавала мяне ў губы. Я ўвесь задрыжаў. Яна пачала мяне цалаваць па шыі, па грудзях і ўсё далей. Я не заўважыў, калі і як яна распранула мяне. Апамятаўся толькі тады, калі мы былі ўжо ў пасцелі, а яна — як далікатная сарна хадзіла вакол мяне. Тое, што перажыў я тады, засталося ў маёй памяці на ўсё жыццё. Калі мы ўжо ляжалі, прытуліўшыся пасля ўсяго, я раптам схамянуўся. Ускочыў, пашарыў у кішэні штаноў, знайшоў тую стадаляроўку і аддаю гэтай дзяўчыне (я ж ведаў, што яна не магла пакахаць мяне адразу, што рабіла гэта дзеля грошай). А яна адвяла маю руку ўбок, ды кажа: „О не! Гэта была для мяне прыемнасць!" Я аслупянеў, аднак жа ніякія ўгаворы не прымусілі негрыцянку ўзяць грошы. А што ты на гэта, Сэрцайка?

**Віктар**

Віктар! Пытаешся, што я на гэта? Ну што ж, па-першае, дзяўчына табе трапілася прынцыпіяльная. Відаць, у справах гонару колер скуры не адыгрывае ролі.

Па-другое, мяркую, што лепш падыходзіш да жанчын-негрыцянак, чым да белых, калі разважаць у катэгорыях Мікалая з папярэдняга нумара (бо белай дзяўчыне, маўляў, і мізінца хопіць).

**Сэрцайка**

# ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Прысніўся мне страшны сон. Быццам мой сын знаходзіцца ў трупярні. Грамадная, вясокая, пустая зала і ён там адзін. Ляжыць у драўлянай капаньцы. Яна вельмі плыткая. Каля галавы, з левага боку, з капанькі тырчыць рука, драўляная далонь. Ён перавярнуўся на бок і кажа, што рыхтуецца да смерці. Сам прыкрыты белай прасцінай. Відаць была галава і голая грудная клетка.

У тую ж ноч і маёй жонцы прысніўся наш сын. Ён кавалер, але мае сваю кватэру. Сніцца, што ідзе яна дарогай. І тут жа пры ёй салдат. Глядзіць, а гэта сын. Здаровы, вясёлы, адпачыўшы. У белай кашулі і зялёным адзенні. Ідуць разам, але глядзіць, а яго ўжо няма. Перад ёй чыгунка і едзе поезд. Яна бачыць, чыгунка канчаецца, а цягнік паехаў далей. **Валік**

Сніўся мне такі сон. Еду са сваім бацькам-нябожчыкам самаходам. Бацька кіруе і так мы даехалі да маста. Мост драўляны. Ляжаць дошкі на ім, непрыбітыя. Я кажу бацьку, што вылезу і пайду папраўлю гэтыя дошкі, бо так не паедзем. Я іх папраўляю і ўжо я на другім баку рэчкі, а бацька астаўся. Я ўбачыла, што непадалёк стаяць самаходы, іх многа. І многа там людзей. Чую, хтось цераз гучнагаварыцель кажа, каб усіх людзей забраць у гэтыя самаходы. Я не іду, баюся, людзі нейкія незнаёмыя мне. Спаткала сябра. Пытаю ў яго, дзе мой бацька. А ён кажа, што на расстайных дарогах астаўся. Адна дарога вядзе да Чорнай, а другая да святога месца. Бацька мяне там чакае, не ведае, куды я падзелася. Я пайшла і абудзілася. **Марыя**

Валянцін! Не магу цябе пацешыць. Твайму сыну пагражае вялікая небяспека. Усе элементы твайго сну сведчаць аб тым, што павінен ён асцерагацца.

Марыя! Што датычыцца твайга сну, дык няўхільна прадвяшчае ён нейкія клопаты. Калі сніцца бацька, клопат заўсёды будзе. Ды й мост, на якім дошкі былі хісткія, непрыбітыя. Адна надзея, што бацька твой застаўся на другім баку, дык мо і клопатаў сваіх неяк пазбудзешся, хаця відаць, што клопаты — твая спецыяльнасць (усё ж бацька цябе чакаў на тых расстайных дарогах).

**Астрон**




### РУЛЕТ З СЫРАМ

**На цеста трэба ўзяць:** паўкілаграма пшанічнай мукі, 15 дэкаў цукру, 2 яйкі, 1/4 літра малака, 3 дэкі дражджэй, пачку ванільнага цукру, 3 дэкі смажанай апельсіннай скуркі, 3 дэкі разынак.

**На начынку:** 25 дэкаў сыра, 15 дэкаў цукру, пачка ванільнага цукру, 4 яйкі, 10 дэкаў масла, 10 дэкаў разынак, лімонную скурку.

З пералічаных прадуктаў падрыхтаваць дрожджавае цеста. Сыр расцерці з цукрам, каб атрымалася гладкая маса, і, расціраючы, дадаваць па адным жаўтку, сцёртую на тарцы лімонную скурку, ванільны цукар і растопленае масла. Дамяшаць разынкі. Вырасшае цеста раскатаць на таўшчыню 2 см, палажыць на яго сырную масу, цесна загарнуць рулет і палажыць яго ў змазаную тлушчам бляшку. Пакінуць, каб падрос. Тады змазаць бялком і пячы мінут 40—50 у гарачай духоўцы.

### РУЛЕТ З АРЭХАМІ

**На цеста трэба ўзяць** паўкілаграма пшанічнай мукі, 15 дэкаў цукру, 2 яйкі, 1/4 літра малака, 3 дэкі дражджэй, 1 пачку ванільнага цукру, ромавую паліўку.

**На арэхавую масу:** 10 дэкаў ачышчаных лясных арэхаў, 20 дэкаў цукровай пудры, 2 бялкі.

З падрыхтаваных прадуктаў замясіць дрожджавае цеста і пакінуць у цёплым месцы, каб падрасло.

**Падрыхтоўка арэхавай масы.** Абабраныя арэхі палажыць на некалькі мінут у гарачую духоўку, а пасля гэтага сцерці луску рукамі. Арэхі змалоць у мясарубцы, дадаючы бялкі. Змеленую масу на працягу 15 мінут размешваць з цукровай пудрай.

Раскатанае цеста пералажыць арэхавай масай і далей паступаць, як у папярэднім рэцэпце.

У канцы падрыхтоўваем ромавую паліўку. Цукар (15 дэкаў) усыпаем у каструльку, дадаем чвэрць шклянкі вады, сок з чвэрткі лімона або паўлыжачкі воцату і, памешваючы, варым. Калі на паверхні выступяць бурбалкі, праверыць, ці сіроп ужо густы. Гатовы сіроп зняць з агню і мяшаць драўлянай лапаткай, пакуль не збялее. Тады дадаць ромавы алей, перамяшаць і ромавай паліўкай змазаць астуджаны рулет.

### РУЛЕТ З ДЖЭМАМ

Цеста падрыхтоўваем з тых жа прадуктаў, што і ў папярэдніх рэцэптах. На начынку бярэм 25 дэкаў джэму.

**На люкр:** 15 дэкаў цукровай пудры, 1 бялок, 1 лыжачку воцату.

Падрыхтаванае і падрослае цеста раскатаць на таўшчыню 1 см, змазаць джэмам, згарнуць і пакінуць на паўгадзіны ў цёплым месцы, каб падрасло. Тады палажыць на змазаную тлушчам бляшку і пячы ў гарачай духоўцы 40 мінут.

**Падрыхтоўка люкру.** Бялок з цукрам і воцатам расціраць 20 мінут у каменнай місцы. Спечаны і астуджаны рулет уставіць у цёплую духоўку яшчэ на 5 мінут, каб люкр абсох.

**Гаспадыня**

# Зорка
## Старонка для дзяцей

# АД ЧАГО ПАЙШЛО МАЛЯВАННЕ ЯЕК НА ВЯЛІКДЗЕНЬ?

**(Адна з легенд)**

Споўніліся словы Ісуса Хрыста і прадказванні пракокаў: на трэці дзень пасля смерці Хрыстос уваскрос. Хоць цела яго знаходзілася ў глыбокім каменным гробе, прываленым цяжкой каменнай плітой, а вакол магілы стаялі стражнікі, прароцтва споўнілася. На трэці дзень надосвітку адсунулася цяжкая пліта з гроба Ісуса Хрыста, і такое святло ўдарыла з магілы, што стражнікі, асляпленыя, анямеўшыя ад страху, пападалі ніцма на зямлю. А над магілай у незямным бляску з'явіўся Хрыстос. Ён уваскрос, а з яго далоняў і стопаў, а таксама прабітага пікай бока замест крыві струменямі плыло цудоўнае святло.

Праз хвіліну Хрыстос знік. Стражнікі паўсхопліваліся з зямлі і, убачыўшы пустую магілу, пабеглі хутчэй да свайго начальніка, каб павядоміць яго аб тым, што здарылася, і прасіць, каб не пакараў іх, бо яны не вінаватыя.

Начальнік варты сядзеў якраз над снеданнем. Перад ім на талерцы ляжалі свежазвараныя яйкі ў бялюсенькіх шкарлупінках. Пачуўшы ад стражнікаў аб уваскрашэнні Хрыста, начальнік страшэнна ўзлаваўся.

— Што?! — крыкнуў ён, абураны. Начальнік варты адказваў галавою за цела пахаванага перад рымскім намеснікам Пілатам. — Што скажа на гэта Пілат? Вы, гультаі, маеце адвагу мне казкі расказваць! Замест таго, каб пільнаваць магілу, вы спалі і дазволілі вучням выкрасці цела, а цяпер прабуеце выкруціцца ад заслужанай кары і выдумляеце цуды. Як чырвонае не можа замяніцца ў момант у белае, а белае ў чырвонае, так і мёртвы чалавек не можа аджыць. Рыхтуйцеся да смерці!

Салдаты ў страху ўпалі ніцма на зямлю перад начальнікам, прысягаючы на ўсіх святых, што гавораць праўду, прасілі, каб ім было даравана жыццё. Раптам слуга начальніка, глянуўшы мімаходам на стол, крыкнуў:

— Паглядзіце, гэта ж цуд!

Начальнік глянуў і здзівіўся: на талерцы замест белых ляжалі чырвоныя, чырванюткія, як макі, яечкі.

Салдаты ўсхапіліся на ногі, а найстарэйшы з іх сказаў:

— Ці ж белае не замянілася ў чырвонае? Ці ж гэта не знак, што можа здарыцца цуд? Ці ты памятаеш, што абяцаў нам даравать жыццё, калі мы сказалі праўду?

Начальнік стаяў збялелы і маўчаў. Нарэшце сказаў:

— Ваша праўда! Цешцеся, вы выратаваны. Цяпер я веру, што той замучаны ўваскрос. Вы свабодныя. Можаце ісці, а сабе

(Працяг на стар. 10)



**ЗДАРОЎЯ, СОНЦА І РАДАСЦІ Ў ВЕЛІКОДНЫ РАНАК ДЫ ЯШЧЭ БАГАТАГА ВАЛАЧОБНАГА**

**ЖАДАЕ ЎСІМ ДЗЕЦЯМ „ЗОРКА"**

**Якуб Колас**

## ПРЫХАДЗІ ХУТЧЭЙ, ВЯСНА!

Надакучыла ж зіміца!
Прыхадзі хутчэй, вясна:
Ты — крылатая зарніца,
Ты — прызыўная струна,
Ты — дзяўчына-чараўніца,
Ты прыветна, ты ясна,
Гучнай радасці паўна;
Ты — надзей і мар злучэнне,
Ты — гром песень, цішыня,
Ты — надзорнае імкненне,
Ты — прастора-шырыня,
Ты — прыгожасць-летуценне,
Ты — развага-глыбіня,
Усмех радаснага дня.

Прыхадзі ж, вясенька-радасць,
Буйна росамі заззяй,
Хай твая краса дабра дасць
І абудзіць гэты край!

І прыйшла яна, княгіня,
Пагняла снег з зямлі,
І дзе толькі вочы кіне,
Ажыўлялася пустыня,
Травы, красачкі раслі.
(З паэмы „Сымон Музыка")

**Мар'ян Дукса**

## ВЯСЕННІЯ МЕЛОДЫІ

Усе нясуць вясне
Узбуджанасць вялікую.
Сініца на сасне
Цілікае, цілікае.

Яна да голля туліцца,
Між дрэў шчасліва лётае.
Вось-вось канцэрт адбудзецца —
„Вясеннія мелодыі".

Аб гэтым — чуў я сам
Пра свята недалёкае —
Пушчанскім жыхарам
Аб'яўлена сарокаю.

Над люстраю ракі,
Дзе гнуцца лозы ніцыя,
Пявучыя шпакі
Паселі: рэпетыцыя.

З травы ўзляціць кулік,
Хітнецца над рабінаю.
Усёй праграмы цвік —
Праграма салаўіная.

Буслы штодзённа ўдаль
Глядзяць — трывогі ўласныя:
— Цудоўна — фестываль...
Чаму ж не бачна ластавак?

Нервуюцца буслы:
— Ну што яшчэ за фокусы!
Шлях, пэўна, не малы,
Але ж пачатак конкурсу...

Сарока у адказ:
— Усё ідзе па графіку.
Яны ляцяць да нас —
Перадавала Афрыка.

Прагульваецца лось,
Рагамі ледзьве рухае.
Спыняецца чагось,
Зачаравана слухае.

„Не песні — дзыўны сон..."
Стаіўся, заварожаны.
На фестываль і ён,
Як член журы, запрошаны.

І я ў гушчар залез
Пагутарыць з прыродаю,
Дзе свята на ўвесь лес —
„Вясеннія мелодыі"!



*Сцэнка з п'есы „Казка пра сіротку Марысю" ў пастаноўцы школьнага тэатра са школы № 3 у Бельску. Фота Я. Чэрнякевіч.*

Уолт Дысней




**Частка 4**
**Пачатак у папярэдніх нумарах**

З страхі злятала лісцё, сцены дрыжэлі, але дом усё яшчэ стаяў.

І толькі тады, калі воўк дунуў у пяты раз, дом захістаўся і разваліўся. Адны толькі дзверы некаторы час яшчэ стаялі сярод руін.



Ахопленыя жахам, кінуліся парасяткі бегчы. Ад страху ў іх аднімаліся ногі, кожная шчацінка дрыжэла, курносыя насы перасохлі. Браты імчаліся к дому Наф-Нафа.

Воўк наганяў іх вялізнымі скачкамі.

Адзін раз ён ледзь не схапіў Ніф-Ніфа за заднюю ножку, але той лоўка ўхіліўся і прыбавіў ходу.



Воўк таксама паддаў ходу. Ён быў упэўнен, што на гэты раз парасяткі ад яго не ўцякуць.

Але яму зноў не пашанцавала.

Парасяткі хутка праімчаліся міма вялікай яблыні, нават не дакрануўшы яе. А воўк не паспеў звярнуць і наляцеў на яблыню, якая абсыпала яго яблыкамі. Адно цвёрдае яблыка ўдарыла яго паміж вачэй. Вялікі гуз ускочыў у яго на ілбе.

А Ніф-Ніф і Нуф-Нуф, ні жывыя, ні мёртвыя, прыбеглі ў гэты час к дому старэйшага брата.

Брат упусціў іх у дом. Бедныя парасяткі былі так напалоханы, што нічога не маглі сказаць і моўчкі кінуліся пад ложак. Наф-Наф адразу здагадаўся, што за імі гнаўся воўк. Але яму не было чаго баяцца ў сваім каменным доме. Ён хутка зачыніў дзверы на засаўку, сеў за піяніна і заспяваў:

> Ніякія ў свеце зверы,
> Злыя зверы, злыя зверы,
> Не адчыняць мае дзверы,
> Мае дзверы, мае дзверы!

**Але тут пастукалі ў дзверы.**

**— Хто стукае? — запытаў Наф-Наф.**

**— Гэта я, прадаўшчык шчотак, — пачуўся грубы голас. — Ці не хочаце паглядзець мой тавар?**



**Наф-Наф адчыніў крыху дзверы і ўбачыў калматую лапу. Ён умомант выхапіў шчотку і балюча ўдарыў ёю па калматай лапе ваўка. Равучы ад болю воўк прахрыпеў:**

**— А, гэтак! Ну, цяпер я з'ем усіх траіх!**

**— Спрабуй! — адказаў з-за дзвярэй Наф-Наф. Ён ведаў, што яму і братам няма чаго баяцца ў моцным каменным доме.**

**Тады воўк уцягнуў у сябе як мага больш паветра і дунуў з усёй сілы.**

**Але колькі ён ні дуў, ні адна, нават самая маленькая цаглінка не зрушылася з месца.**

**Воўк пасінеў ад натугі.**

**Дом стаяў, як крэпасць. Тады воўк пачаў трэсці дзверы. Але дзверы таксама не паддаваліся. А ў сценах дома не было ні аднон шчыліны, праз якую ён мог бы прабрацца да парасятак. Галоднаму і злому ваўку нічога не аставалася рабіць, як пайсці без нічога.**

**Але тут ён падняў галаву і раптам заўважыў вялікі, шырокі комін на страсе.**

„Вось праз гэты комін я і пралезу ў дом!" — узрадаваўся воўк.



Ён асцярожна ўзлез на страху і прыслухаўся. У доме было ціха.

„Я ўсё ж такі закушу свежай парасяцінкай!" — падумаў ён і аблізнуўшыся, палез у комін.

Але як толькі ён пачаў спускацца па коміну, парасяты пачулі шорах. А калі на крышку катла пачала сыпацца сажа, Наф-Наф адразу здагадаўся, у чым справа.

**Ён шпарка кінуўся да катла з кіпячаю вадою і сарваў з яго крышку.**

**Чорны, як трубачыст, воўк бултыхнуўся проста ў вар.**

**Ніколі яшчэ яму не было так балюча! Вочы ў яго вылезлі на лоб, уся шэрсць паднялася дыбам.**

**З страшэнным рыкам ён выскачыў назад на страху, скаціўся па ёй на зямлю, перакуліўся чатыры разы, праехаўся на сваім хвасце міма запертых дзвярэй і пусціўся наўцёкі.**



А тры браты, тры маленькія парасяткі, глядзелі яму ўслед з акна і радаваліся, што яны так лоўка правучылі злога ваўка.

А потым яны ўсе разам заспявалі вясёлую песеньку:

> Хоць паўсвета абыйсці,
> Абыйсці, абыйсці,
> Лепшай хаткі не знайсці!
> Не знайсці, не знайсці!
> Ніякія ў свеце зверы,
> Злыя зверы, злыя зверы,
> Не адчыняць мае дзверы,
> Мае дзверы, мае дзверы!
> Ваўку з лесу ўжо ніколі,
> Ўжо ніколі, ўжо ніколі
> Не вярнуцца да нас болей,
> Да нас болей, да нас болей!

З таго часу браты пачалі жыць разам.

Вось і ўсё, што мы ведаем пра траіх маленькіх парасятак — Ніф-Ніфа, Нуф-Нуфа і Наф-Нафа.

**Канец**

(Працяг са стар. 9)

## АД ЧАГО ПАЙШЛО МАЛЯВАННЕ ЯЕК НА ВЯЛІКДЗЕНЬ?

на памяць аб тым, што здарылася, вазьміце гэтыя каляровыя яйкі.

Шчаслівыя салдаты пайшлі і панеслі ў народ вестку аб сваім цудоўным ратунку, а ў доказ, што расказваюць праўду, паказвалі маляваныя яйкі.

З таго часу людзі на Вялікдзень фарбуюць яйкі і раздаюць валачобнае.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

**Марыя Васілеўская, вуч. 6 класа, в. Бадакі, пошта 17-111 Боцькі, Беластоцкае ваяводства. Польшча.**

* * *

**БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 116, кв. 64. Рыта Каўтуненка (4 клас).**

* * *

**БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 116, кв. 80. Оля Дышлевіч (6 клас).**

* * *

**БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Лермантава, 45, кв. 18. Оля Трачынская (5 клас).**

* * *

**БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Бетонны пр., 33, кв. 9. Наташа Мардовіч (5 клас).**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



*Размалюй карцінку каляровымі алоўкамі. Падзялі поле дзвюма простымі лініямі так, каб у кожнай яго частцы было па тры божыя кароўкі, тры матылькі і тры стракозы.*


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. „Зорка"

## КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) узвышэнне з дошак, 4) з пальцамі і пятой, 8) хросны тваіго дзіцяці, 10) зварот да Бога, 11) смешны кароценькі расказ, 12) „Без акон, без дзвярэй, поўна хата людзей", 13) дажджавое воблака, 14) суп з крывёй, 17) ашуканец, 18) васьмідзесяцігадовая, 20) пасярэдзіне спіны, 23) з разбітага нiхто не наесца, 27) чорны напітак, 28) абсталяванне ў пакоі, 29) у гербе Польшчы, 32) з амбона, 33) з яго толькі карысці, што есць, 34) жарэ жалеза, 35) пасяджэнне працаўнікоў, 36). не выпісвае „Нівы".

**Уніз:** 1) патрэбная жанчыне да губ, 2) бліскавіца, 3) самыя дзіркі, 5) гніль, прах, 6) ноччу пад галавой, 7) драпежная птушка, 8) страшны сон, 9) плавае на судне, 15) верхні пласт зямлі, 16) найвышэйшыя ў Польшчы, 17) расце ў лесе або на страсе, 19) не сон, але вострaў, 21) гогалеўскі кантралёр, 22) настаўнік спартсмена, 23) не кідай яе іншым пад ногі, 24) трапічны ураган, 25) сярод лёгкаатлетаў, 26) перакладзіна над вадой, 30) не катод, 31) камень ля камення. **„ядань"**

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 9.**

**Упоперак:** скандал, драматургія, праезд, аканне, масла, эфір, Осла, рабак, кратэр, „Залёты", падрыхтоўка, андарак.

**Уніз:** камізм, нота, Афрыка, арганізатар, гімнасцёрка, спрэчка, негатыў, Дакар, алмаз, рэфрэн, карова, яхта.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Марыя Верціхоўская з Гарадка (Віцебская вобл.) і Аляксандр Дабчынскі з Бацютаў.

## НІЎКА

„Прывязіце нам дзяцей на вялікодныя святы. Мы будзем вельмі рады, але не забудзьце ўзяць больш колькасць таблетак ад болю галавы". Мал. У. Глявіна.

## АФАРЫЗМЫ

Дзве асноўныя патрэбы ўражлівага чалавека: патрэба эмоцыі і мыслення.

*

Слабасць чалавека бывае небяспечнай — можа парадзіць сілу і насілле.

*

На нарадах найчасцей раімся з суседзямі.

*

Жыццё мяняе колеры, як мора.

*

Пабудаваў сабе раскошны дом, каб цешыцца зайздрасцю суседзяў.

*

І на малой пасадзе можна быць вялікім грубіянам.

*

Жыццё — гэта няспыннае імкненне да раўнавагі.

*

Хочацца на пенсію, калі да яе яшчэ даволі далёка.

Часлаў Банах

## ІМЯ ДЛЯ СЫНА

У адным доме здарылася вялікая радасць: нарадзіўся сын. Тэрмінова была склікана сямейная нарада, каб выбраць імя новапароджанаму. У нарадзе, акрамя маладых бацькоў, прынялі ўдзел цесць з цешчай і вясковыя дзед з бабкай. Сам віноўнік усёй гэтай мітусні ціхамірна смактаў пустышку ў калысцы, нават не падазраючы аб сур'ёзнасці справы.

Усе адразу згадзіліся з тым, што імя павінна быць не банальным, а нейкім адметным. Бабка, зазірнуўшы ў святцы, прапанавала на выбар: Серафім, Спірыдон, Радзівон або Варлаам. Але бабчын спіс быў цалкам адкінуты як вельмі архаічны. Тады ўзняўся дзед:

— За нашым часам значный папулярнасцю карысталіся імёны Авангард і Кастрычнік, — выказаў ён сваё меркаванні.

— Ну, ты, дзед, і загнуў, — абурыўся малады бацька, які пачуў у апошнім слове нешта абразлівае для мужчын.

— А вось калі я вучылася ў тэхнікуме, аднаго студэнта з маёй групы звалі вельмі прыгожа і арыгінальна — Дагнаць-і-Перагнаць, памяншальна Дагнацік, — падзялілася ўспамінамі цешча.

— Не, не і не, — рашуча ўступіў цесць, адказны работнік, — гэта ўсё мінулая эпоха. Мы павінны даць яму імя ў духу часу, скажам, Плюралізм. Зусім нядрэнна гучыць. Не дарма ж наш сусед, чалавек са значнай пасадай, назваў сваю дачку Галоснасцю.

— А калі эпоха плюралізму хутка скончыцца? — перасцярог дзед, які перажыў ужо не адну эпоху.

Абмеркаванне працягвалася. Зрок маладога бацькі стомлена блукаў па пакоі і раптам натыкнуўся на імпартную магнітолу. І яго асяніла...

— Эўрыка! — закрычаў ён. — Знайшоў! Назавем яго Панасонік. Памяншальна будзе Панас. А што? І арыгінальна, і сучасна.

У адказ на пераможны бацькаў крык малы толькі гучней зацмокаў пустышкай.

Юрась Юравец

Янусь Малец

### НЕВЯЛІЧКАЯ ОДА П'ЯНІЦУ

Я б п'яніцу
узвёў на п'едэстал.
Стаяў бы ён
з чырвона-сінім носам,
трымаў бы
у адной руцэ бакал,
ну, а ў другой —
бутэльку й папяросу,
бо хто яшчэ
праз пену з губ,
абпёршыся аб слуп,
крычаць асмеліцца:
„Усё-ткі Галілей той
быў не дуб-б!
Усё-ткі Зямля,
зараза,
верціцца!!!"

Віктар Швед

### ЛЕПШ ПРЫВЯДЗІ МАШЫНУ

— Што б ты сказаў, Адаме, —
Спытаў сыночка тата, —
Каб новую я маму
Прывёў табе дахаты?

Адказ пачуў ад сына:
— Не трэба новай маткі,
Лепш новую машыну
Ты прывядзі нам, татка.


**Ніва**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Пятрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1990 r. upływa 20 maja 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa ul. Towarowa 28 Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:

- prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy).
- rezerwacja w tzw. teczkach (we wszystkich kioskach)
- prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach).

Zam. 320/90 r. U-3.